ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №49 (4407) СЕРАДА, 8 чэрвеня 1994 года | Кошт па падпісцы — 20 руб., у розніцу — 100 руб.

## НГ-ІНФАРМ



## СТАЎКА НА КАМП'ЮТЭРЫ

Сучасная адукацыя патрабуе сучаснай тэхналогіі. Найбольш эфектыўным і магутным сродкам з'яўляюцца камп'ютэры як інструмент пазнання свету. Электронны падручнік, інфармацыйна-пошукавыя сістэмы базы даных ведаў, экспертныя сістэмы — вось тыя элементы інфармацыйных тэхналогій, якія сёння павінны выкарыстоўвацца ў сістэме адукацыі. Таму камп'ютэрызацыя навучальных установ — задача сённяшняга дня.

Калі ў вышэйшых навучальных установах у гэтым напрамку зроблена многае, то гэтага нельга сказаць пра сярэднія школы, якіх у краіне больш як 5 тысяч.

Днямі міністр адукацыі Віктар Гайсёнак пабываў на мінскім заводзе "Электроніка". Дырэктар прадпрыемства В.Вярбіцкі, галоўны інжынер В.Талкачоў, намеснік дырэктара па маркетынгу і збыту В.Падольскі расказалі, у якіх нялёгкіх умовах працуе калектыў рытмічна, без скарачэння рабочых. На заводзе выпускаюцца камп'ютэры, электронныя часы, настольныя і насценныя тэлефонныя апараты, электронныя тэрмометры. Па сваёй якасці прадукцыя адпавядае сусветным стандартам, можа выйсці на сусветны рынак. Аднак было адзначана, што на заводзе яшчэ не навучыліся рэалізоўваць прадукцыю, даходзіць да спажыўца. Палепшыць варта і рэкламу. Адміністрацыя завода можа заключыць дагаворы з аддзеламі адукацыі па рэалізацыі прадукцыі, а 10 працэнтаў ад выручкі застаецца на патрэбы навучальных установ.

Міністр адукацыі азнаёміўся з работай камп'ютэраў, якія могуць выкарыстоўвацца ў навучальным працэсе. У прыватнасці, настаўнік са свайго рабочага месца можа кантраляваць работу класа, кожнага вучня і г.д. Былі ўнесены заўвагі і прапановы па ўдасканаленні камп'ютэраў.

Віктар Анатольевіч Гайсёнак прапанаваў адміністрацыі завода абсталяваць камп'ютэрны клас у адной з сельскіх сярэдніх школ Мінскага раёна, а таксама ў Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі з мэтай прапаганды і ўдасканалення камп'ютэрнай сістэмы.

Мяркуецца пастаўку камп'ютэраў у школы праводзіць цэнтралізаваным метадам, а гэта патрабуе цэнтралізацыі бюджэтных сродкаў. Пытанні набыцця камп'ютэраў будуць яшчэ дэталёва абмеркаваны.

Міхась АНІСЕНКА.

Фота Юрыя БОНДАРАВА.



## КОРАТКА

У Беларускім педагагічным і Беларускім дзяржаўным універсітэтах уводзяцца новыя спецыяльнасці. Гэта "Грэчаская і лацінская мова і літаратура", "Сацыяльная работа", "Культуралогія", "Экалогія", "Дзіцячая і юнацкая журналістыка", а таксама "Літаратурная работа".

* * *

28 чэрвеня ў Горках Магілёўскай вобласці пачне работу краязнаўчая канферэнцыя, прысвечаная 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

* * *

Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф.Скарыны наведала дэлегацыя з універсітэта горада-пабраціма Клерман-Феран. Мэта візіту французскай дэлегацыі — адабраць некалькі студэнтаў эканамічнага факультэта для аднагадовай вучобы ў Францыі. Адбор праходзіў на конкурснай аснове. У выніку трое студэнтаў запрошаны на вучобу ў Клерман-Феран.

* * *

Сёлета пры паступленні ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію абітурыентам неабходна будзе здаваць экзамены па беларускай мове і літаратуры.

* * *

У верасні ў Брэсце на базе гарадскога Дома дзіцячай і юнацкай творчасці плануецца адкрыць сацыяльна-псіхалагічны цэнтр для моладзі, а на базе інтэрната спартыўнай школы №5 — прытулак для непаўналетніх.

* * *

Жыхарам Смаргоні ва ўзросце да 18 гадоў, згодна з рашэннем гарсавета, забараняецца з 23 да 6 гадзін раніцы знаходзіцца на вуліцах горада, у дварах і пад'ездах дамоў, а таксама ў іншых грамадскіх месцах без суправаджэння бацькоў.

* * *

У Смалявіцкім раёне нямала зроблена па выкананні Закона аб мовах. Тут распрацавана доўгатэрміновая праграма "Спадчына". Выконваючы яе, на дзяржаўную мову пераведзена навучанне і выхаванне ва ўсіх пачатковых класах школ раёна, дзіцячых садках і пазашкольных установах.

* * *

Гомельскі політэхнічны інстытут адзначыў 25-гадовы юбілей. За гэты перыяд навучальная ўстанова падрыхтавала больш як 8 тысяч спецыялістаў.

Міхась АНІСЕНКА.

## ПА РОДНЫМ КРАІ

### ДРУГОЕ СВЯТА Ў ВЕРАСНІ

**Першага верасня, як вядома, штогод адзначаецца Дзень ведаў. А сёлета чацвёртага верасня — у першую нядзелю месяца — упершыню ў Беларусі будзе святкавацца Дзень беларускага пісьменства і друку.**

Ва указе Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь адзначаецца, што гэта свята ўстаноўлена ў мэтах павышэння прэстыжу пісьменства і друку як асновы шматвяковай нацыянальнай культуры, дзеля далейшага памнажэння яе здабыткаў, узмацнення яе ролі і значэння ў духоўным жыцці грамадства.

### ДВОЙКІ ВЕДАМСТВАМ

**Ход выканання многімі міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і ведамствамі Закона аб мовах нельга прызнаць здавальняючым — гаворыцца ў пастанове Прэзідыума Вярхоўнага Савета "Аб мерах па забеспячэнні своечасовага выканання Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".**

Савету Міністраў даручана сістэматычна разглядаць выкананне заканадаўства аб мовах. Акадэміі навук сумесна з міністэрствамі адукацыі, культуры і друку і іншымі зацікаўленымі органамі і ўстановамі прапанавана да 1 верасня 1994 года ўтварыць Рэспубліканскі навукова-каардынацыйны савет па пытаннях правядзення дзяржаўнай моўнай палітыкі.

### ХТО НАЦІСНЕ НА ТАРМАЗЫ?

**Сёння адзіны рэальны паратунак для нас — аднаўленне эканамічных сувязей з Расіяй і іншымі краінамі СНД, як мага хутчэйшае асваенне рынкаў Расіі ў першую чаргу — такім бачыць шлях выхаду Беларусі з глыбокага сацыяльна-эканамічнага крызісу Старшыня Вярхоўнага Савета М.І.Грыб.**

Выступаючы перад працоўным калектывам гродзенскага завода "Радыёпрыбор", спікер парламента сказаў, што "ў нас сёння невясёлыя справы": за апошні месяц інфляцыя дасягнула ўзроўню 43 працэнтаў, цэны на спажывецкія тавары і паслугі ў параўнанні са снежнем 1993 года ўзраслі ў 2,4 раза. Адзіна вырашальнай задачай бліжэйшага часу М.Грыб назваў "тармажэнне і прыпыненне масавага абвалу сельскай і прамысловай вытворчасці".

### "УСЁ САПСАВАЎ ЛУКАШЭНКА"

**Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч і яшчэ тры кандыдаты на пасаду прэзідэнта — А.Дубко, В.Новікаў і А.Лукашэнка — спрабавалі дамовіцца аб каардынацыі дзеянняў у час прэзідэнцкай кампаніі і, па магчымасці, вылучэнні аднаго кандыдата.**

Дзелячыся ўражаннямі аб гэтай гутарцы перад сустрэчай з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі, якая адбылася ў Нясвіжы, В.Кебіч сказаў, што Дубко і Новікаў згадзіліся весці перамовы і нават блізка падышлі да ідэі стварэння кааліцыйнага ўрада, аднак усё сапсаваў Лукашэнка, заявіўшы, што будзе весці перагаворы толькі ў выпадку вылучэння кандыдатам непасрэдна яго.

### СТАНІСЛАЎ ЗА СТАНІСЛАВА

**У планах ініцыятыўнай групы Станіслава Шушкевіча, па словах Алега Трусава на прэс-канферэнцыі 1 чэрвеня, — выхад С.Шушкевіча ў другі тур выбараў.**

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады не выключыў магчымасці стварэння ў другім туры выбараў блока БСДГ, АДПБ, ПНЗ і БНФ у падтрымку экс-спікера. У выпадку перамогі на прэзідэнцкіх выбарах С.Шушкевіча, зазначыў А.Трусаў, прэм'ер-міністрам новага ўрада стане цяперашні галоўны банкір краіны Станіслаў Багданкевіч.

## НГ-ІНФАРМ

### ВЕСТКІ З ВЫШЭЙШЫХ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ

## ЛЕКЦЫІ ПА РЫНАЧНАЙ ЭКАНОМІЦЫ

**Спецыяльны курс лекцый прачытаны для студэнтаў і выкладчыкаў Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта пастаянным прадстаўнікам Міжнароднага Валютнага Фонду (МВФ) Вілемам Мідэлкаопам. Курс меў мэтавы характар, усе яго тэмы былі папярэдне абмеркаваны і ўзгоднены з рэктарам універсітэта і кафедрай міжнародных эканамічных адносін. Пастаянны прадстаўнік МВФ улічыў літаральна ўсе прапановы. Яго лекцыі былі прысвечаны розным аспектам рынкавай эканомікі краін Захаду, параўнальнаму аналізу эканамічных праблем краін Заходняй Еўропы і Беларусі, актуальным праблемам развіцця нашай краіны, яе сувязям з МВФ.**

ВЯЛІКУЮ цікавасць у слухачоў выклікалі лекцыі, прысвечаныя аналізу эканамічнай палітыкі дзяржавы на прыкладзе Галандыі, дзе пан Мідэлкаоп на працягу шэрагу гадоў быў міністрам эканомікі. На яго думку, гэта невялікая заходнееўрапейская краіна па шэрагу эканамічных параметраў вельмі нагадвае Беларусь. І многія сучасныя эканамічныя праблемы Галандыі — датаванне сельскай гаспадаркі, суднабудавання і да т.п. — падобныя да цяперашніх праблем нашай эканомікі.

Некалькі лекцый прадстаўнік МВФ прысвяціў выкладанню сваіх поглядаў на сучасную эканамічную сітуацыю ў Беларусі, праблеме магчымага грашовага саюза з Расіяй.

Трэба адзначыць вельмі ўзважаны і аргументаваны падыход лектара да ўсіх выкладаемых пытанняў. Ён не ўступаў у безвыніковыя палітычныя дыскусіі, а імкнуўся даць прафесійную ацэнку кароткатэрміновых і доўгатэрміновых вынікаў магчымых варыянтаў развіцця падзей, выявіць карэнныя праблемы цяперашніх эканамічных цяжкасцяў Беларусі.

Лектар звярнуў увагу на неабходнасць правядзення вельмі прадуманай крэдытнай палітыкі такой невялікай дзяржавы, як наша. Паводле яго ацэнкі, некантралюемая крэдытная палітыка можа прывесці да "скупкі" найбольш прыбытковай і перспектыўнай часткі эканомікі Беларусі яе крэдыторамі на працягу некалькіх гадоў.

Цэльны курс лекцый, чытаемы замежным спецыялістам такога высокага класа, несумненна, вельмі неабходны студэнтам. Невыпадкова курс лекцый пана Мідэлкаопа быў вельмі папулярны, і асабліва сярод студэнтаў міжнародных эканамічных спецыялізацый.

Карыснымі гэтыя лекцыі аказаліся і для выкладчыкаў універсітэта як у змястоўным, так і ў арганізацыйна-метадычным плане.

Лектар будаваў заняткі ў актыўным дыялогавым рэжыме, нярэдка спецыяльна завастраючы асабліва спрэчныя праблемы.

На занятках у яго заўсёды былі падрыхтаваны для кожнага слухача пакет дапаможных матэрыялаў, якія ўтрымліваюць тэзісны пераказ ключавых ідэй лекцый, графікі, табліцы, схемы, артыкулы з газет і часопісаў, што ілюструюць і паглыбляюць змест выкладаемага матэрыялу.

Водгукі студэнтаў і выкладчыкаў аб курсе лекцый дазваляюць зрабіць выснову аб тым, што менавіта такая форма ўдзелу замежных спецыялістаў у навучальным працэсе ў вышэйшай школе з'яўляецца найбольш выніковай. Час спарадычных выступленняў "залётных" прафесараў, якія выкладаюць, як правіла, агульнавядомыя ісціны, мінуў.

Неабходны прадуманы адбор і сістэмнае запрашэнне высокакваліфікаваных замежных педагогаў і спецыялістаў-практыкаў для чытання мэтавых курсаў лекцый. Вядома, зрабіць гэта ва ўмовах бядотнага фінансавага становішча ВНУ вельмі няпроста, але да гэтага трэба імкнуцца. Уяўляецца мэтазгоднай арганізацыя пад эгідай Міністэрства адукацыі семінара або канферэнцыі прадстаўнікоў ВНУ краіны, прысвечанай абагульненню і аналізу вопыту прыцягнення замежных спецыялістаў да чытання лекцый і ўдасканалення навучальнага працэсу.

Сяргей КРЫЧЭЎСКІ,
кандыдат эканамічных навук, магістр дзелавога адміністравання, загадчык кафедры БДЭУ.

## ДНІ КАФЕДРЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**На філалагічным факультэце Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны прайшлі дні кафедры беларускай мовы, якія былі прысвечаны 25-годдзю навучальнай установы.**

ЯНЫ пачаліся сустрэчай з настаўнікамі роднай мовы і літаратуры — выпускнікамі кафедры. Іх цёпла віталі сённяшнія студэнты, якія чыталі вершы, спявалі, танцавалі. А затым адбылася шчырая размова са студэнтамі, з выкладчыкамі аб праблемах выкладання мовы і літаратуры ў школах горада, аб нялёгкіх шляхах нашага адраджэння. Выказана агульнае пажаданне, каб зрабіць такія сустрэчы традыцыйнымі. Несумненна, што яны будуць садзейнічаць умацаванню яшчэ больш цесных сувязей кафедры са школай.

Прайшлі таксама студэнцкія навуковыя чытанні, прысвечаныя Сцяпану Некрашэвічу, вядомаму нашаму земляку, акадэміку- мовазнаўцу, ураджэнцу вёскі Данілаўка Светлагорскага раёна. Сцяпан Некрашэвіч у свой час быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі. Адбылася сустрэча з вучнямі 56-й школы, перад якімі выступілі загадчыца кафедры А.А.Станкевіч, загадчык кафедры беларускай культуры Д.Д.Паўлавец. Вучні з цікавасцю азнаёміліся з кабінетамі, бібліятэкай факультэта, а таксама з выставай "Палескія ўзоры", якая працавала на факультэце на працягу некалькіх дзён. Тут былі прадстаўлены прадметы быту і культуры Палескага краю, сабраныя студэнтамі-філолагамі ў час летніх дыялекталагічных экспедыцый.

На круглы стол "Мне сняцца сны аб Беларусі..." быў запрошаны добры знаўца гісторыі нашай Бацькаўшчыны Ц.Вострыкаў.

Л.КУЗЬМІЧ,
кандыдат філалагічных навук, старшы выкладчык ГДУ імя Ф.Скарыны.

## ПАВЕДАМЛЯЕ ПРЭС-ЦЭНТР МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ

## ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

29 чэрвеня ў Пінску пройдзе пасяджэнне Міжведамаснай Рады па пытаннях дашкольнага выхавання. Парадак дня:

1. Аб перадачы ведамасных дашкольных устаноў на баланс мясцовых Саветаў.
2. Фізкультурна-аздараўленчая работа ў ведамасных дашкольных установах Пінска.

* * *

У чэрвені на факультэце кіруючых работнікаў школ і пазашкольных устаноў ІПКіПКРСА праводзяцца курсы:

З 30 мая па 25 чэрвеня — мастацка-эстэтычнае выхаванне ў дзяцей.

Курсы для метадыстаў і творча працуючых выхавацеляў дашкольных устаноў. Вывучаюцца канцэптуальныя падыходы да сістэмы мастацка-эстэтычнага выхавання дзяцей у Беларусі, пытанні методыкі выхавання і навучання дзяцей рознымі відамі мастацкай дзейнасці, прадугледжаны практыкумы па навучанні выхавацеляў арыгінальным відам мастацкай дзейнасці. На курсах запланаваны наведванні лепшых дзіцячых садоў Мінска.

З 30 мая па 25 чэрвеня — курсы для загадчыкаў дашкольных устаноў, якія раней праходзілі курсавую падрыхтоўку. Разглядаецца шэраг праблем па навуковых асновах кіравання дашкольнымі ўстановамі, псіхалагічныя праблемы кіравання, блок пытанняў, прысвечаных нацыянальнаму адраджэнню.

З 1 па 14 чэрвеня — шляхі выкарыстання беларускіх народных традыцый у працэсе выхавання нацыянальнай свядомасці вучняў.

Прадугледжваецца паглыбленае вывучэнне фальклорнай спадчыны, агульнанацыянальнай традыцыйнай культуры, этнапедагогікі ў выхаваўчых, пазнавальных, дыдактычных мэтах. Слухачам будзе дадзена магчымасць сустрэцца са знакамітымі вучонымі, практыкамі, набыць метадычную літаратуру.

З 1 па 28 чэрвеня — заняткі лектараў па этнапедагогіцы і сямейным выхаванні.

Мэта — падрыхтоўка лектараў па пытаннях адраджэння сям'і, як першаснага выхаваўчага калектыву. Разглядаюцца праблемы выхавання дзяцей у сучаснай сям'і, разнастайныя пытанні этнапедагогікі, сацыяльнай педагогікі. Да ўдзелу ў працы курсаў прыцягнуты вядомыя вучоныя, прадуглджваецца азнаямленне з вопытам работы і з навінкамі педагагічнай літаратуры.

На курсы запрашаюцца педагогі ўсіх тыпаў школ і пазашкольных устаноў, аддзелаў адукацыі, інстытутаў удасканалення настаўнікаў.

З 6 па 25 чэрвеня — экалагічнае выхаванне і асновы жыцця, здароўя дзяцей.

Курсы для метадыстаў і творча працуючых выхавацеляў дашкольных устаноў. Слухачы будуць азнаёмлены з асновамі экалагічнага выхавання, будзе дадзена статыстычная інфармацыя пра здароўе дзяцей у Рэспубліцы Беларусь. Запланаваны заняткі ў Цэнтры па экалагічным выхаванні.

З 6 чэрвеня па 2 ліпеня — фізічнае выхаванне і ахова жыцця, здароўя дзяцей.

Курсы для выкладчыкаў і метадыстаў педвучылішчаў і каледжаў.

Віктар ІЎЧАНКАЎ, вядучы эксперт упраўлення аналітычнай работы і перспектыўнага развіцця.

